№ 14 (4061)

19 лютага 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*



СІТУАЦЫЯ

## Прымем, як родных?

Праблема сірыйскіх бежанцаў, якой зараз так занепакоена Еўропа, хутка можа стаць актуальнай і для Беларусі.

Упраўленне Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў прапануе Беларусі прыняць бежанцаў. Пра гэта ўчора заявіў у Гомелі прадстаўнік УВКБ ААН у Беларусі **Жан-Іў Бушардзі.** Дарэчы, у Гомелі ўжо жывуць тры сям'і сірыйскіх уцекачоў.

ААН высока ацаніла тое, як наша краіна справілася з праблемай перасяленцаў з Данецкай і Луганскай абласцей Украіны, і таму цяпер Беларусі будзе прапанавана дапамагчы Еўропе і паўдзельнічаць у вырашэнні лёсу сірыйскіх сем'яў.

Выказвайце сваё меркаванне, паважаныя чытачы!

**Алег СНОЎ.**

ЭКСПЕРЫМЕНТ

## Сантэхнікаў прымусяць «дыхаць у трубачку»

Спецыялістаў арганізацый жыллёва-камунальнай гаспадаркі, якія выконваюць работы на аб'ектах сістэм водазабеспячэння, водаадвядзення (каналізацыі) і цеплазабеспячэння, перад пачаткам работы будуць аглядаць на цвярозасць. Працей кажучы, сантэхнікаў прымусяць "дыхаць у трубачку".

Такое рашэнне замацавана сумеснай пастановай Міністэрства працы і сацыяльнай абароны і Міністэрства аховы здароўя. Дакумент набудзе сілу 1 сакавіка. Вось толькі ці не занадта небяспечны эксперымент ладзяць чыноўнікі? Ці будзе каму працаваць сантэхнікамі пасля 1 сакавіка?

**Алена НОВІКАВА.**

УЧОРА





КР.BY

# Пастралялі...

Старшыні аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама, а таксама некаторыя іх намеснікі ўчора былі выкліканы ў Мінск на вучэнні войскаў тэрытарыяльнай абароны.

Нагадаем, што пару гадоў таму кіраўнікі абласцей у Беларусі аўтаматычна атрымалі званне генерал-маёра і сталі кіраўнікамі войскаў тэрытарыяльнай абароны. Вайсковую форму яны апранаюць нячаста, але даводзіцца. Як, напрыклад, учора... Напярэдадні гэтага збору Аляксандр Лукашэнка даў дзяржсакратару Савета бяспекі Станіславу Засю і міністру абароны Андрэю Раўкову загад праверыць, "як бегаюць, як страляюць, як апрануты, як сілкуюцца і гэтак далей. Усё павінна быць па-сур'ёзнаму. Пракантралюйце гэта. І ў сродкі масавай інфармацыі ўсё гэта даць, каб людзі гэта бачылі. А не тое, што яны прыйдуць у гальштуках і будуць слухаць, што вы ім там будзеце распавядаць. Сёння ў гальштуках, заўтра ў ваенных штанах генерал-маёраў".

Штаны генерал-маёраў, прама скажам, адзенне не самае дрэннае. Што тычыцца сілкавання, дык тут некаторым кіраўнікам абласцей і дыета не пашкодзіла б. Марафон яны, зразумела, учора не бегалі. Але што сапраўды прадэманстравалі, дык гэта сваё ўменне страляць з пісталета. Хоць зборы толькі гэтым не абмежаваліся.

**Алег СНОЎ.**

БЕЛАРУСЬ–ЕС

## «Фінансавы» візіт?

Дэлегацыя Еўрасаюза наведае Беларусь 24 лютага. Яе ўзначаляць намеснік генеральнага дырэктара Еўракамісіі па пытаннях суседства і перамоў аб пашырэнні **Кацярына Мацернава** і віцэ-прэзідэнт Еўрапейскага інвестыцыйнага банка **Ласла Бараняй.**

Як паведаміў прэс-сакратар МЗС Беларусі **Дзмітрый Мірончык** на брыфінгу ў Мінску, у склад дэлегацыі таксама ўвойдуць прадстаўнікі генеральнага дырэктарата Еўракамісіі па эканамічных і фінансавых пытаннях, пастаяннага прадстаўніцтва Еўрапейскага інвестыцыйнага банка ў Маскве і Прадстаўніцтва ЕС у Беларусі.

У праграме візіту – сустрэчы прадстаўнікоў ЕС з кіраўніцтвам Нацыянальнага банка, міністэрстваў эканомікі, фінансаў, замежных спраў і Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі, паведаміў Мірончык.

*"У межах візіту плануецца разгледзець становішча і перспектывы развіцця эканамічнага і фінансавага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Еўрасаюзам, а таксама магчымасці пашырэння ўзаемадзеяння Беларусі з еўрапейскімі і міжнароднымі фінансавымі інстытутамі"*, – адзначыў прэс-сакратар МЗС.

ДАРЭЧЫ

## Крэдыт прасілі яшчэ ў 2009 годзе

Еўрапейскі інвестыцыйны банк (ЕІБ) з'яўляецца фінансавым інстытутам ЕС. Акцыянерамі банка з'яўляюцца 27 дзяржаў ЕС.

Мінск звяртаўся да Еўрасаюза з просьбай аб фінансавай дапамозе шэсць гадоў таму, нагадвае БелаПАН. Пра гэта ў чэрвені 2009 года паведамляў **Андрэй Харкавец,** які тады займаў пасаду міністра фінансаў Беларусі. У лістападзе 2010-га Часовы Павераны ў Справах ЕС у Беларусі **Жан-Эрык Хольцапфель** заяўляў, што супрацоўніцтва Еўрапейскага інвестыцыйнага банка з Беларуссю залежыць ад агульнага ўзроўню адносін Брусэля з Мінскам. Пасля прэзідэнцкіх выбараў у снежні 2010 года, жорсткага разгону мірнай дэманстрацыі ў Мінску і арышту апазіцыйных кандыдатаў у прэзідэнты беларуска-еўрапейскія адносіны былі некалькі гадоў фактычна замарожаны. Больш за тое, ЕС увёў візавыя эканамічныя санкцыі ў дачыненні да Беларусі. Большасць гэтых санкцый былі скасаваны 15 лютага гэтага года.

КАДРЫ

## У ЕЭК – новы старшыня



Старшынёй Еўрапейскай эканамічнай камісіі – гэтакага праваобраза наднацыянальнага ўрада краін Еўразійскага эканамічнага саюза – прызначаны былы прэм'ер-міністр Арменіі **Тыгран Саркісян.**

**Алег СНОЎ.**

SOS!

# Кто поставил на колени «Тулово»

Из-за сложного экономического положения сельскохозяйственное предприятие «Тулово» в Витебском районе несколько месяцев не может рассчитаться с работниками. Людям предлагают увольняться по собственному желанию, но найти новую работу в регионе непросто. Многие предприятия сегодня переживают кризис.

– *Уже должны были выплатить зарплату за январь, а мы еще даже за ноябрь не получили,* – говорят животноводы агрокомплекса «Тулово». – *Будем бастовать. Понимаем, что животные, за которыми мы ухаживаем, не виноваты, но что делать? Отправили коллективное письмо в комитет по труду и социальной защите Витебского облисполкома. Ждем ответа.*

Сложившуюся ситуацию «Народная Воля» попросила прокомментировать руководство экспериментальной базы «Тулово».

– *Экономическое положение тяжелое,* – сказал заместитель директора **Виталий Войцеховский.** – *Выдали людям по 270 тысяч рублей. Забастовок еще нет, но попытки провести их были. Люди, конечно, недовольны, стараемся договариваться. Коровы голодными не стояли, но коллектив в сложном положении. Ситуация такая, что никто не знает, как ее решать! Рабочие знают, что проблемы на предприятии начались, когда к нам присоединили два близлежащих хозяйства. И второй момент: наши земли, где пасли скот, передали опытной станции Академии наук. Эти и другие причины нас поставили на колени.*

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**



ВІНШУЕМ!

## Зміцер ДАШКЕВІЧ: «Ёсць яшчэ порах...»

*У сям'і маладзёжных актывістаў Зміцера Дашкевіча і Насты Палажанка папаўненне – на свет з'явіўся сын Давід.*

На сваёй старонцы ў "Фэйсбуку" Зміцер напісаў: «*Сын! Чакаць больш не меў жадання і папрасіўся на два тыдні раней за планаванае. Давід Дашкевіч, 2970, 51. Усім дзякуй за малітвы!*»

Нагадаем, **Зміцер Дашкевіч** – сустаршыня зарэгістраванага ў Чэхіі «Маладога фронту», экс-палітвязень. **Наста Дашкевіч (Палажанка)** – былы лідар маладафронтаўцаў. Яны распісаліся ў калоніі, дзе быў у зняволенні Зміцер, напрыканцы 2012 года. У чэрвені 2014 года ў іх нарадзілася першае дзіця – дачка Мара.

"*Імя дачцэ выбірала Наста, а сыну – я*, – распавёў "Народнай Волі" шчаслівы бацька. – *Сын і дачка – гэта проста цудоўна. Колькі дзяцей хацеў бы ў сям'і? Пяць-дзесяць – да гэтага трэба імкнуцца кожнаму беларусу. Таму асабіста ў мяне настрой з гэтай нагоды баявы. Як кажуць, ёсць яшчэ порах...*"

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТЭНДЭНЦЫІ

# Беспрацоўных мужчын стала больш

*Самымі незапатрабаванымі на рынку працы сталі мужчыны ва ўзросце 40–45 гадоў.*

І тых, хто шукае работу, апошнім часам стала больш.

Напрыклад, у Маладзечанскім раёне сітуацыя па беспрацоўі даволі вострая. Пра гэта распавяла намеснік начальніка ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Маладзечанскага райвыканкама **Таццяна Мучынская.**

– *Павялічыўся прыток грамадзян, якія нелегальна ездзілі на заробкі ў Расію*, – цытуе чыноўніцу mgazeta.by. – *Пераважна гэта работнікі будаўнічай галіны. Яны вярнуліся дамоў, бо з-за падзення расійскага рубля працаваць у краіне-суседцы стала нявыгадна. Дадатковую нагрузку на рынак працы аказваюць і прадпрыемствы, якім даводзіцца існаваць у рэжыме вымушанай няпоўнай занятасці...*

І калі яшчэ пару гадоў таму ў беспрацоўя быў жаночы твар, то цяпер – мужчынскі.

Як сведчаць эканамісты, беспрацоўных мужчын заўсёды становіцца больш у перыяд эканамічнага крызісу: будаўнічы і прамысловы сектары звужаюцца, звальняючы шмат некваліфікаваных работнікаў. У адрозненне ад жанчын, якія ў цяжкую хвіліну хапаюцца за любую работу і падпрацоўку, мужчыны часта перабіраюць варыянты.

Дарэчы, за мяжой беспрацоўныя мужчыны ахвотна бяруць на сябе асноўны груз хатніх абавязкаў. Пакуль жонкі ці сяброўкі зарабляюць грошы, мужчыны даглядаюць дзяцей, мыюць бялізну, гатуюць ежу і прыбіраюцца.

ДА ВЕДАМА

### Хто лічыцца беспрацоўным?

Беспрацоўным можа быць прызнаны чалавек, які не мае ніякага даходу, не з'яўляецца індывідуальным прадпрымальнікам і не знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку. У гэтым статусе можна быць не больш за тры гады.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

РЭЙТЫНГ

## Беларуская армія на 45-м месцы?

Арганізацыя Global Firepower склала сусветны рэйтынг Узброеных сіл. Беларусь апынулася на 45-й пазіцыі сярод 126 краін па сукупных паказчыках.

Першыя тры радкі ў рэйтынгу займаюць ЗША, Расія і Кітай, апошнія – Малі, Мазамбік і Самалі. Украіна знаходзіцца на 25-м месцы, Узбекістан – на 54-м, Азербайджан – на 64-м, Арменія – на 74-м, Грузія – на 75-м, Кыргызстан – на 78-м, Таджыкістан – на 81-м, Туркменістан – на 90-м месцы.

У рэйтынгу ўлічана, што па колькасці насельніцтва Беларусь займае 83-ю пазіцыю сярод краін, якія параўноўваюцца. Пры гэтым па колькасці арміі (65 тыс. чалавек) Узброеныя сілы Беларусі займаюць 65-е месца. Па агульнай колькасці самалётаў (181) беларуская армія займае 50-е месца. Па ліку аэрадромаў, якія абслугоўваюцца (65), – 70-е месца. Па агульнай колькасці танкаў, у тым ліку лёгкіх, – 15-е. Паводле звестак Global Firepower, іх у Беларусі 1665 адзінак.

Пры гэтым, адзначаюць даследчыкі, па выдатках на абарону Беларусь займае 79-е месца, выдаткоўваючы на гэтыя мэты 725 млн долараў за год па стане на 2015 год.

Наколькі дакладныя гэтыя лічбы – цяжка сказаць. Пачакаем, які каментарый будзе з боку афіцыйных колаў Беларусі.

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Стареть не в одиночестве

В странах Европы частные дома для престарелых – обычная практика, а у нас пока диковинка. До недавнего времени в Беларуси был только один частный пансионат для одиноких пожилых людей. Но в марте начинает работу новое структурное подразделение ООО «ЛОДЭ» – реабилитационно-оздоровительный центр в г.Лепеле, то есть частный пансионат для пожилых людей.

**– Пятиразовое питание, домашний уют, досуг и круглосуточное наблюдение – что еще обеспечит частный пансионат?**

**–Можно ли лежачему больному попасть в пансионат для пожилых людей в Лепеле?**

**– Сколько стоит месяц проживания в комфортабельном пансионате для пожилых людей?**

На эти и многие другие вопросы на «Прямой линии» ответит начальник отдела туризма ООО «ЛОДЭ»



**Наталья Анатольевна МАКЕЙ.**

Звоните **23 февраля с 13.00 до 14.30** по телефону **328-68-41.**

Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте nvonlineinfo@gmail.com с пометкой «Прямая линия».

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Когда состоится суд над судьями Экономического суда Минска?

*Год назад, 2 февраля 2015 года, сотрудники КГБ задержали двоих судей Экономического суда Минска – **Юрия Грушецкого** и **Елену Мельникову.** С тех пор о судьбе этих судей ничего не известно. В прессу не поступает никакой информации от правоохранителей.*

Собственно, информации и об их задержании было очень мало. Точнее, 3 февраля 2015 года КГБ заявило только о том, что задержан 36-летний **Юрий Грушецкий.** Ему инкриминируется получение взятки (ч.3 ст.430 – получение взятки лицом, занимающим ответственное положение). Санкции по этой статье предусматривают лишение свободы на срок от 5 до 15 лет с конфискацией имущества. О задержании Елены Мельниковой вообще не сообщалось. Хотя в околосудебных кругах это был известный факт. Рассказывали, что и Грушецкого, и Мельникову задерживали не в здании суда, а дома, Грушецкого – якобы в момент получения денег. Однако сумму взятки в КГБ не огласили. Судьи были помещены в СИЗО. Судя по всему, в неволе они находятся до сих пор. Под подписку о невыезде на тот срок, пока будут идти следственные мероприятия, судей не выпустили. И это несмотря на то, что Елена Мельникова – женщина, а у Юрия Грушецкого двое маленьких детей.

Любопытно, что на сайте Экономического суда Минска фамилий Грушецкого и Мельниковой в списке работающих судей нет. Хотя президентского указа об их освобождении от должности судей Экономического суда Минска не было. В прошлом году Александр Лукашенко уволил из этого суда сразу четверых судей: председателя Игоря Ждановича, который возглавлял ведомство более 15 лет, и его заместителя Сергея Кулаковского, а также **Олега Клюйко и Андрея Рыбалкина. К слову, тогда своих должностей судьи лишились** «*за совершение проступка, несовместимого с нахождением на государственной службе*». Причем инициатором привлечения к дисциплинарной ответственности (увольнения) судей выступил Верховный суд. Как сообщала пресс-служба Верховного суда, «*в ходе проверки подтверждено внепроцессуальное общение указанных лиц с представителями сторон до вынесения решения по делу в угоду личным интересам*». Тогда же появились слухи, что могут случиться новые задержания судей, но они не подтвердились.

Но что же с делом Грушецкого и Мельниковой? КГБ до сих пор ведет следствие? Скоро будет суд? Или, может быть, подозреваемые уже на свободе?

– *Следствие заканчивается, и в ближайшее время дело будет передано в суд,* – заявил начальник пресс-службы КГБ **Дмитрий Побяржин**.

Стоит добавить, что уголовные дела, возбуждаемые в отношении судей, слушаются в Верховном суде Беларуси.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

К СЛОВУ

## 14 лет колонии

Судебные дела в отношении судей в современной Беларуси – практика не такая уж редкая. И, как правило, приговоры своим коллегам суды выносят жесткие.

В 2014 году **заместитель председателя суда Советского района Гомеля Юрий Жоров был приговорен к лишению свободы на срок 14 лет с отбыванием наказания в колонии усиленного режима (благодаря амнистии срок наказания уменьшен на один год). Жорова признали виновным в получении взяток.** Ранее за аналогичное преступление на 14 лет лишения свободы был осужден бывший зампредседателя суда Октябрьского района Могилева **Магомед Умаров**. Бывшему зампреду Белорусского военного суда **Юрию Тузову** за мошенничество и подстрекательство к даче взятки также дали 14 лет колонии.

СИТУАЦИЯ

# Страсти вокруг «писем счастья»

*В последнее время многие автолюбители активно обсуждали на форумах вопрос: имеют ли законную силу «письма счастья», которые лихачам приходят за превышение скорости? «Народная Воля» нашла ответ на него.*

Как уже сообщалось, в Могилевской области водителю прислали штраф (720 тысяч рублей) за превышение скорости на 35 км/ч. Факт нарушения был зафиксирован автоматической камерой. Мужчина с таким решением не согласился: мол, система фотофиксации, указанная в постановлении, не сертифицирована в Беларуси.

По информации портала abw.by, в постановлении прибор, который осуществлял съемку, назван системой фотофиксации MULTARADAR_SD580. Водитель обратился в Могилевский центр стандартизации, метрологии и сертификации с вопросом: сертифицирована ли она для использования в Беларуси? Ответ был примерно такой: такая система не внесена в Государственный реестр средства измерений Республики Беларусь. Кстати, после этого постановление в отношении водителя было направлено на новое рассмотрение.

Многие автолюбители, услышав эту историю, естественно, задались вопросом: если система фотофиксации не сертифицирована, значит, и штрафы за превышение скорости незаконны?

«Народная Воля» решила разобраться в ситуации и обратилась за комментарием в СЗАО «Безопасные дороги Беларуси» – компанию, реализующую инвестиционный проект по созданию и эксплуатации Единой системы фотофиксации нарушений скоростного режима на территории Республики Беларусь.

*«Речь идет не о том, что система не сертифицирована,* – рассказывает заместитель директора по развитию **Эдвард КАРВАШ**. – *Дело в наименовании прибора. Мы уже объясняли, что указанная в постановлении, вынесенном в отношении могилевского водителя, «автоматическая система фотофиксации «MULTARADAR SD_580» внесена в государственный реестр средств измерений 02.04.2014 за №9027. В соответствии с полученным сертификатом наименованием вышеуказанной системы является «Измерители скорости транспортных средств радиолокационные стационарные MultaRadar SD_580». Данное оборудование является законченным, самостоятельным элементом Единой системы фотофиксации, в связи с чем в Постановлении об административном правонарушении указывается ее полное наименование производителя (MultaRadar SD_580), номер системы, номер радиолокационного измерителя, являющегося неотъемлемой частью оборудования и проходящего поверку совместно с основной системой. Отметим, что не мы это название придумали – его определил орган по сертификации исходя из предназначения оборудования. Другой вопрос, почему Могилевский центр стандартизации, метрологии и сертификации так ответил… Но в таких случаях говорят: какой вопрос, такой и ответ. В центре не удосужились расшифровать водителю, что устройство сертифицировано под другим названием. Кстати, если бы наша система не была сертифицирована, мы бы просто не смогли ее поверять, хотя в соответствии с Программой и методикой испытаний межповерочный интервал составляет 12 месяцев. Кроме того, не смогли бы ввезти ее на территорию Беларуси. А то, что водители что-то придумывают от себя, так это право каждого».*

По словам сотрудников Центра фиксации правонарушений, многие водители, нарушая скоростной режим, задумываются не о том, как исправить свою культуру поведения на дороге, а о том, как избежать наказания.

*«Некоторые устанавливают скрывающие шторки на рамки номерного знака, есть рамки переворачивающиеся,* – рассказывают специалисты центра. – *Заклеивают их, замазывают… Был случай, когда один водитель вообще забрался на камеру, сфотографировал на свою «мыльницу» дорогу, а затем предъявлял нам претензии, что фото с радара и его фото разные. Чудаков хватает. И вся их смекалка направлена прежде всего на то, как уйти от ответственности.*

*Кстати, дело этого могилевского автолюбителя не завершено. И суда никакого не было. Просто постановление на основании решения заместителя начальника УГАИ УВД Могилевского облисполкома «направлено на новое рассмотрение». Это определенная законодательством процедура, которая осуществляется в ходе ведения административного процесса в общем порядке, но только после того, как постановление по фотофиксации утрачивает силу на основании поданного гражданином письменного заявления в порядке ч.5 ст.10.3 ПИКоАП. Следует отметить, что утрата силы постановления и новое рассмотрение дела отнюдь не реабилитирует нарушителя. Так что скандал раздули, как говорят, на пустом месте».*

**Алесь СИВЫЙ.**

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## У Польшчы зацікавіліся прадукцыяй віцебскай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі»

Сёння ААТ «Сцяг індустрыялізацыі» працуе на рынках Расіі і краін Балтыі. У гэтым годзе плануецца пачаць пастаўкі прадукцыі віцебскай фабрыкі ў Польшчу. Перамовы аб супрацоўніцтве вяліся з верасня мінулага года.

– *Палякі зацікавіліся нашымі льняной і ваўнянай групамі прадукцыі,* – сказаў «Народнай Волі» начальнік аддзела маркетынгу і збыту ААТ «Сцяг індустрыялізацыі» **Уладзімір Вінаградаў.** – *Вядзецца вялікая праца з польскім бокам, і яшчэ патрэбны некаторы час. Людзі нам паверылі, зацікавіліся, таму лепш не спяшацца і рабіць акуратныя крокі. Аб канкрэтных аб'ёмах будзем казаць, калі пачнуцца пастаўкі.*

ААТ «Сцяг індустрыялізацыі» з'яўляецца адным з найбуйнейшых вытворцаў мужчынскага і жаночага адзення ў Рэспубліцы Беларусь. На беларускі і замежныя рынкі прадпрыемства пастаўляе касцюмныя вырабы, курткі, плашчы, паліто, паўпаліто. Асноўны ўпор робіцца на вытворчасць прадукцыі з выкарыстаннем натуральнай сыравіны і матэрыялаў.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ПЫТАННЕ–АДКАЗ

# Вы вяртаецеся ў Беларусь з пакупкамі…

**1.На якую суму можна будзе правезці тавар бяспошлінна пасля 14 красавіка, калі ўступіць у дзеянне Указ прэзідэнта №40?**

*– На суму 1500 еўра пры першым перасячэнні мяжы на працягу трох месяцаў.*

**2.Якая максімальная вага тавару можа быць пры першым перасячэнні мяжы ў трохмесячны тэрмін?**

*– Не больш за 50 кілаграмаў.*

**3.На якую суму можна будзе правезці тавар пры перасячэнні мяжы ў другі, трэці і наступныя разы на працягу трох месяцаў?**

*– Коштам да 300 еўра.*

**4.Якая вага тавару можа быць пры перасячэнні мяжы ў другі і наступныя разы на працягу трох месяцаў?**

*– Да 20 кілаграмаў.*

**5.Якую пошліну трэба будзе заплаціць пры перавышэнні ліміту па агульным кошце тавару?**

*– Як і раней – 30 працэнтаў ад кошту тавару, але не менш за 4 еўра за 1 кілаграм вагі.*

**6.Які памер пошліны будзе ў тым выпадку, калі перавышэнне ліміту акажацца толькі па вазе тавару?**

*– У такім разе пошліна возьмецца толькі за "лішнія" кілаграмы – па 4 еўра за кожны з іх. Плюс мытны збор – 5 еўра.*

**7.У якім выпадку можна пазбегнуць выканання патрабаванняў Указа №40?**

*– Калі вы будзеце ляцець з-за мяжы самалётам і пацвердзіце, што ўсе рэчы – для асабістага карыстання.*

ВОСТРАЯ ТЭМА

## Павел САПЕЛКА: «Чалавек нават у няволі – гэта перш за ўсё чалавек»

*Тэма парушэнняў правоў тых, хто знаходзіцца ў месцах прымусовага ўтрымання, не новая, але заўсёды на слыху. Рэзанансныя інфармацыйныя нагоды для гэтага ёсць. Час ад часу на свет усплываюць факты жорсткага абыходжання ў турмах, нават гібелі там людзей… Што робіць дзяржава, каб змяніць сітуацыю ў лепшы бок? І што паказаў маніторынг месцаў прымусовага ўтрымання? Пра гэта карэспандэнт "Народнай Волі" гутарыць з юрыстам-праваабаронцам* ***Паўлам САПЕЛКАМ.***

– Маніторынгам месцаў прымусовага ўтрымання мы займаемся з 2012 года, – распавядае суразмоўца "Народнай Волі". – Аналізуем сітуацыю ў калоніях, турмах, ізалятарах часовага ўтрымання, лячэбна-працоўных прафілакторыях, спецшколах для непаўнагадовых і закрытых аддзяленнях бальніц. Мы апытвалі тых, хто зараз там знаходзіцца ці ўжо вярнуўся дадому, і паралельна вывучалі прававое становішча гэтых людзей, бо, пагадзіцеся, меркаванні некаторых могуць быць даволі суб'ектыўныя. Дарэчы, у працэсе даводзілася не проста канстатаваць нейкія факты, але і аказваць юрыдычную дапамогу тым, хто пацярпеў. І вось зараз падагульнілі ўсё ў справаздачу па выніках маніторынгу за 2015 год.

**– Якія найбольш балючыя пытанні вы можаце адзначыць?**

– Возьмем, напрыклад, палітычныя правы асуджаных, якія, у адпаведнасці з Канстытуцыяй і выбарчым заканадаўствам, не маюць права браць удзел у выбарчым працэсе. Пры гэтым пазбаўляюцца такога права нават тыя, хто ўтрымліваецца ў следчым ізалятары і пакуль не асуджаны. Пытанне: чаму? Ёсць такое паняцце, як прэзумпцыя невінаватасці. Можа, чалавека заўтра суд апраўдае, а яго зараней абмежавалі ў правах. Дарэчы, гэтую асаблівасць беларускага заканадаўства крытыкуем не толькі мы, але і БДІПЧ АБСЕ.

У фокусе ўвагі былі і правы жанчын, якія адбываюць пакаранне. Напрыклад, паводле беларускага заканадаўства для цяжарных жанчын і тых асуджаных, якія толькі нарадзілі, безумоўна, зроблены паслабленні ў рэжымных патрабаваннях. Але тыя, хто нарадзіў, пазбаўлены права на адпачынак па доглядзе за дзіцем да 3 гадоў. Нейкі час яны знаходзяцца на бальнічным, а пасля абавязаны вяртацца ў калонію, дзе працягваюць працаваць. Не выплачваюцца і тыя сумы дапамогі, якія атрымліваюць жанчыны па нараджэнні дзіцяці. Акрамя таго, калі жанчына асуджана на працяглы тэрмін, то праз 3 гады яе дзіця адправяць у дзіцячы дом. Выстаўляецца своеасаблівы бар'ер паміж маці і дзіцем. Нават на спатканне да жанчыны ў калонію дзіця не заўсёды прывозяць. Не хочуць гэтым займацца – і ўсё. Гэта, да слова, вялікая праблема, якую, як нам падаецца, пакуль ніхто не збіраецца вырашаць. Дарэчы, у Малдове гэтым пытаннем займаюцца дабрачынныя ўстановы, якія спецыяльна возяць дзяцей да маці. Адным словам, праблем тут хапае, і вельмі хацелася б, каб дзяржава звярнула на гэта ўвагу.

**– Асобная тэма – праца ў калоніях…**

– Сёння Дэпартамент выканання пакаранняў можна назваць вялікай фірмай, якая мае ў калоніях свае філіялы – рэспубліканскія унітарныя прадпрыемствы. Яны выдаюць прадукцыі на сотні мільярдаў рублёў у год. І прадпрыемствы рэнтабельныя, бо рабочая сіла – практычна бясплатная. Усё спісваецца на тое, што, маўляў, чалавек такім чынам перавыхоўваецца і аплачвае сваё знаходжанне ва ўстанове.

Дарэчы, у некаторых калоніях абсталяванне такое старое, што не абыходзіцца без надзвычайных здарэнняў. Мы ўжо неяк распавядалі пра справу Андрэя Князькова, які атрымаў траўму на вытворчасці ў Магілёўскай калоніі, дзе адбываў пакаранне. Падчас работы на такарным станку вылецела дэталь, якая патрапіла ў галаву асуджанаму. Урачы паставілі дыягназ "адкрытая чэрапна-мазгавая траўма (пералом лобнай косткі, удар галаўнога мозгу)". Пасля гэтага ён некалькі гадоў дамагаўся права на матэрыяльную кампенсацыю, пасля звярнуўся да праваабаронцаў. І толькі праз 5 гадоў суд усё ж такі адбыўся, хоць ён толькі часткова задаволіў патрабаванні пацярпелага. За такую траўму на вытворчасці чалавеку, які стаў у калоніі інвалідам, перанёс дзве аперацыі з нейрахірургічным умяшальніцтвам, выплацілі ўсяго 40 мільёнаў. Дарэчы, Андрэй працягвае змаганне і хоча прыцягнуць вінаватых да адказнасці.

Таксама хацелася б адзначыць праблему інтэграцыі асуджаных у грамадскае жыццё пасля выхаду на волю. Той жа Князькоў у Мінску атрымаў рэгістрацыю ў Доме начнога знаходжання, пачаў шукаць сабе працу, але аказалася, што гэта зрабіць няпроста. Дарэчы, для тых, хто вызваліўся, існуюць працоўныя броні. Праўда, з рэгістрацыяй у Доме начнога знаходжання Князькову параілі шукаць працу ў агульным парадку. А ўсё ж мы ведаем, як працадаўцы ставяцца да тых, у каго была судзімасць. Дайшло да таго, што адна служба таксі выставіла ўмову прыёму на работу – адсутнасць судзімасці. Рэдкі выпадак, калі наймальнік публічна заяўляе, што ён мае намер дыскрымінаваць людзей.

**– У прэсе ў мінулым годзе раз-пораз уздымалася тэма жорсткага абыходжання са зняволенымі. Вы канстатавалі такія факты?**

– У справаздачы мы адзначылі толькі тыя выпадкі, якія нам вядомы і якія мы суправаджалі юрыдычнай дапамогай. Гэта справа Аляксандра Акуліча, які загінуў у ізалятары часовага ўтрымання ў Светлагорску, Пятра Кучуры, які зведаў жорсткае абыходжанне ў Магілёўскай калоніі. Трэба сказаць, што пачатак гэтых спраў мы апісвалі ў маніторынгу, які праводзілі ў мінулым годзе, але зараз яны падышлі да свайго лагічнага завяршэння. Што датычыцца Акуліча, то было некалькі пастаноў Следчага камітэта аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальных спраў па факце яго гібелі. Гэтыя пастановы адмяняліся вышэйшымі органамі, выносіліся новыя… Адным словам, дзяржава, відаць, не мае намеру прыцягваць да адказнасці тых супрацоўнікаў міліцыі, якія своечасова не дапамаглі чалавеку, што прывяло да яго гібелі. Мы ўжо прыйшлі да высновы, што ўсе нацыянальныя сродкі вычарпаны, таму будзем звяртацца ў Камітэт па правах чалавека ААН.

Тое самае і ў сітуацыі з Пятром Кучурам. Спачатку следчыя адмаўляліся ўзбуджаць справу па факце атручвання яго ў калоніі хлоркай, але ў выніку праверку распачалі і высветлілі, што… зараз немагчыма зрабіць выснову аб вінаватасці кагосьці, бо страчаны момант для правядзення важных следчых дзеянняў. Дык на правядзенні ж экспертызы адразу настойвалі і Кучура, і яго жонка!

Таксама ў цэнтры нашай увагі заставалася і справа аб гібелі Ігара Пцічкіна ў СІЗА, хоць тут ёсць пэўныя складанасці з атрыманнем інфармацыі. Маці Ігара папярэджана аб адказнасці за разгалошванне звестак папярэдняга расследавання. Хоць, хутчэй за ўсё, вінаватых тут таксама не знойдуць.

**– А што можаце сказаць пра сітуацыю ў медыцынскіх установах закрытага тыпу?**

– У мінулым годзе да нас звярнуўся чалавек, які праходзіў лячэнне ад туберкулёзу, і распавёў, што ў лякарні склаліся парадкі, якія яго абураюць. Маўляў, у бальніцы пацыенты нярэдка пілі спіртныя напоі, а адміністрацыя пра гэта ведала, але нічога не рабіла. Зрэшты, са стопрацэнтнай упэўненасцю казаць, што гэта дакладная інфармацыя, я не буду. Тым больш што праблема палягае ў іншым. Чалавек паведаміў вышэйназваныя факты ў пракуратуру, і гэта, відаць, стала вядома ў бальніцы. Пасля чаго яго там збілі, ледзь не згвалцілі. Гэтая сітуацыя паказала, што ў тых жа бальніцах не прадугледжаны механізмы абароны людзей у такіх выпадках.

**– Ізалятары часовага ўтрымання таксама патрапілі ў справаздачу?**

– Вось тут у некаторых установах сітуацыя змяняецца да лепшага, хоць ёсць і такія, якія пакідаюць усё так, як было раней.

**– Калі параўнаць сітуацыю з мінулымі гадамі, то ці можна казаць пра прагрэс?**

– Некалькі ўдасканалілася заканадаўства, калі казаць пра парадак адбыцця адміністрацыйнага арышту. З іншага боку, асноўная маса заканадаўчых актаў, якія датычацца умоў адбыцця пакарання і правоў зняволеных, засталіся ў старым варыянце. У мінулым годзе мы, дарэчы, неаднаразова звярталіся да заканадаўцаў, указвалі на праблемы і пытанні, якія неабходна вырашаць, але ў іх, напэўна, з гэтай нагоды сваё меркаванне – маўляў, і так усё нармальна. Хоць насамрэч становішча з правамі асуджаных не паляпшаецца, з'яўляюцца ўсё новыя факты. І самае страшнае не гэта. Падобныя выпадкі ёсць, напэўна, ва ўсіх краінах, нават развітых. Але ж давайце аб'ектыўна расследаваць іх. А ў нас што? Уся сістэма адразу ж становіцца грудзьмі на абарону ведамства, і пра чалавека, які, напрыклад, загінуў у ізалятары, ужо ніхто нават не думае. Каб толькі свае белыя каўнерыкі не запэцкаць. Але беззаконне толькі спараджае новыя факты жорсткага абыходжання са зняволенымі. Атрымліваецца замкнёнае кола.

І тут з'яўляецца яшчэ адна праблема – адкрытасць месцаў прымусовага ўтрымання для прадстаўнікоў грамадскасці. Грамадска-назіральныя камісіі звужаюць сваю прысутнасць у тых жа калоніях, мы вымушаны казаць, што гэта наогул не інструмент грамадскага кантролю. Бо вынікі наведвання як мінімум павінны быць абнародаваны. Нават калі яны і канстатуюць, што парушэнняў няма. У мінулым годзе я сам звярнуўся ў Дэпартамент выканання пакаранняў з просьбай дапусціць мяне да маніторынгу ў месцах пазбаўлення волі. У сваім адказе міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч падзякаваў мне за "актыўную грамадзянскую пазіцыю ў справе забеспячэння законнасці і правапарадку ў краіне", аднак палічыў немэтазгодным маё наведванне такіх устаноў.

**– Увогуле, ці бяруць пад увагу ваш маніторынг нейкія дзяржаўныя органы? Магчыма, ёсць пэўная рэакцыя з іх боку?**

– Як правіла, дзяржава робіць выгляд, што не заўважае тое, што мы робім. Дэпартамент выканання пакаранняў, МУС не каментуюць нашы справаздачы, але, мяркую, бяруць да ведама нейкія прапановы ці заўвагі. І нешта нават удасканальваюць. Хоць і са скрыпам.

Правы зняволеных – не самая папулярная тэма. Нават сярод беларусаў мы наўрад ці знойдзем словы падтрымкі. Некаторыя могуць яшчэ і сказаць: "Якія правы патрэбны рабаўнікам ці ліхадзеям? Для іх, наадварот, трэба стварыць больш жорсткія ўмовы". Але ў любым выпадку мы хочам, каб усе зразумелі: чалавек нават у няволі – гэта перш за ўсё чалавек.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

НЕСТАНДАРТ

## Кому пожаловаться на цыган?

Не так давно в Петриковском районе из-за конфликта взрослых цыган погиб их ребенок…

Этот случай стал поводом, чтобы на заседании комиссии по делам несовершеннолетних при Житковичском райисполкоме обсуждался вопрос о цыганах школьного возраста. Увы, они не хотят учиться. И прежде всего из-за родительского отношения к образованию: «Зачем цыгану щкола?»

Всего в Житковичском районе живет 214 взрослых цыган, 75 несовершеннолетних, четверо из их числа не учатся нигде. Более того, есть даже ребенок, который нигде не зарегистрирован, то есть документально он не существует. Это значит, что малыш обойден вниманием врачей, у него нет необходимых прививок, даже трудно понять его возраст, чтобы вовремя записать в школу. Но родители упорно не идут на контакт с властями района, не выполняют их просьбы и требования. На заседании было принято решение обратиться за содействием к общественной организации ромов в Гомеле. К своей, «цыганской», власти ромы, наверное, должны прислушаться.

**Кирилл БУБНОВ.**

ЧУЛІ?

## Сёлета ў Мінску можа прайсці чэмпіянат свету па пахлавані

Пахлавані – гэта іранская нацыянальная барацьба. Выключна мужчынскі від спорту. Спецыялісты кажуць, што яна хутка набірае папулярнасць у свеце.

Чэмпіянат свету па гэтым відзе спорту арганізатары хочуць правесці ў Мінску ў кастрычніку гэтага года. Чакаецца прыбыццё спартсменаў з 18 краін.

Расходы абяцае аплаціць Іран.

АФІЦЫЙНА

## Капітальны рамонт дома – за 3,5 месяца

Пару гадоў таму, датэлефанаваўшыся на "Прамую лінію" з віцэ-прэм'ерам Анатолем Калінiным, журналіст "Народнай Волі" заўважыў: "Тое, што вы курыруеце і жыллёва-камунальную гаспадарку, і Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, – сімвалічна. Бо капітальныя рамонты ператвараюцца ў сапраўдную шматмесячную надзвычайную сітуацыю. Калі гэта скончыцца?"

Будзем спадзявацца, што нарэшце скончылася.

Тэрмін правядзення капітальнага рамонту жылля ў Беларусі скарочаны ўтрая. Такі нарматыў прапісаны ў пастанове Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі №3. Як паведаміў начальнік упраўлення па працы са зваротамі грамадзян і СМІ Мінжылкамгаса **Генадзь Аксціловіч,** тэрмін выканання ўсіх рамонтных работ пры капітальным рамонце жылых дамоў, напрыклад, у пяціпавярховым жылым доме з 4–6 пад'ездамі цяпер не павінен перавышаць 3,5 месяца.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

УЖАС!

## Мужчина повесил собаку

Жуткий случай произошел недалеко от деревни Бронное Речицкого района.

Животное нашла семейная пара, которая гуляла по лесу. Они вынули собаку из петли и присыпали снегом, а о случившемся рассказали в интернете.

Выяснилось, что живодером оказался хозяин дворняжки, у которого из-за нее частенько случались конфликты с соседями: мол, бросалась на кур. Он отвел собачку в лес и повесил.

За жестокое обращение с животным мужчине грозит штраф до 30 базовых величин или административный арест.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

БЛІЦ

# Мёртвы варыянт?

*Старшыня Дзяржаўнага камітэта па маёмасці* ***Андрэй Гаеў*** *выступіў з прапановай прадаваць у сталічным гандлёвым цэнтры "Купалаўскі" тавары выключна беларускай вытворчасці.*

*Як на заяву чыноўніка адрэагавалі прадпрымальнікі, якія там працуюць, высвятляў карэспандэнт "Народнай Волі".*

"Купалаўскі" – падземны гандлёвы цэнтр, які знаходзіцца на станцыі метро "Кастрычніцкая".

На ўваходзе – аб'ява, якая распавядае пра тое, што ў арэнду здаюцца гандлёвыя кропкі. У чацвер днём тут было бязлюдна. Недзе з палову прыкладна са 120 гандлёвых кропак былі зачынены ці не працавалі. Прадпрымальнікі актыўна абмяркоўваюць апошнюю прапанову спадара Гаева.

– Так, мы чулі пра ідэю здаваць плошчы цэнтра толькі тым, хто гандлюе беларускім таварам, – кажа Ірына, якая працуе па найме ў боксе з парфумерыяй. – Але як тут рэалізоўваць беларускае? Побач ГУМ… Умоўна кажучы, мы трымаемся за пастаянных кліентаў і адносна невысокую ў параўнанні з іншымі падобнымі гандлёвымі цэнтрамі арэнду. Але апошнім часам пакупнікоў стала меней. Бачна, што людзі эканомяць кожную капейку…

Да размовы падключаецца яшчэ адна прадпрымальніца – Людміла. Яна прапаноўвае пакупнікам жаночае адзенне.

– Я думаю, што спроба пераарыентаваць "Купалаўскі" выключна на беларускія тавары – гэта нерэальны, мёртвы варыянт, – кажа Людміла. – І я вам растлумачу чаму. З кім давядзецца канкурыраваць – з універмагамі кшталту ГУМ, ЦУМ, "Беларусь", дзе беларускім адзеннем завалены цэлыя паверхі і дзе гэтае адзенне вісіць месяцамі? Дык навошта агарод гарадзіць? Калі канкурыраваць, дык прадпрымальнікам трэба прадаваць выключна дызайнерскія рэчы. Напрыклад, я куплю рэчы ў беларускага дызайнера Людмілы Лабковай. Адна кофта можа каштаваць 50–60 долараў. І што – я прадам яе за 100? Смеху варта! А рэалізоўваць рэчы, якія ёсць у крамах, няма ніякага сэнсу…

Прадпрымальнікі хвалююцца, што пасля новаўвядзення з тымі, хто не рэалізоўвае беларускія тавары, могуць разарваць дамову арэнды. А арэнда гандлёвага бокса ў "Купалаўскім" невысокая – бокс плошчай тры квадратныя метры каштуе прыкладна 2 мільёны рублёў у месяц. Плюс аплата камунальных плацяжоў.

– Вы ж бачыце, што ахвочых працаваць тут няма – пустых павільёнаў у "Купалаўскім" – дзясяткі, – рэзюмуе Людміла. – Калі вымусяць зачыніцца, дык, магчыма, прыйдзецца шукаць працу ў іншай краіне… А ўвогуле, такое адчуванне, што некаторыя ініцыятывы нашых чыноўнікаў узяты са столі і агучваюцца толькі для бачнасці іх дзейнасці.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**



НА ЗАМЕТКУ

# Потолок цен на жилищно-коммунальные услуги

Предельно допустимые планово-расчетные цены на жилищно-коммунальные услуги на 2016 год установлены в Беларуси постановлением Совета министров №117 от 12 февраля, сообщили в пресс-службе белорусского правительства.

*«Данные цены рассчитаны, исходя из прогнозных среднегодовых значений обменного курса белорусского рубля к доллару США – 22.719 и индекса потребительских цен – 115,1%»,* – отмечается в приложении к постановлению.

В документе облисполкомам и Минскому горисполкому поручено обеспечить утверждение районными и городскими исполнительными комитетами цен на ЖКУ дифференцированно в пределах установленных планово-расчетных цен.

Предельно допустимые расчетные цены на ЖКУ несколько разнятся в зависимости от региона.

Приложение
к постановлению Совета министров
Республики Беларусь
12.02.2016 №117

**Предельно допустимые планово-расчетные цены на жилищно-коммунальные услуги на 2016 год**

| | Водоснабжение, рублей за 1 куб.метр | Водоотведение (канализация), рублей за 1 куб. метр | Тепловая энергия для нужд отопления и горячего водоснабжения, рублей за 1 Гкал | Техническое обслуживание жилых домов, рублей за 1 кв. метр | Техническое обслуживание лифта, рублей за 1 кв. метр | Обращение с твердыми коммунальными отходами, рублей за 1 куб. метр |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Брестский облисполком | 7111 | 6108 | 1.111.288 | 1155 | 840 | 76.247 |
| Витебский облисполком | 8345 | 6444 | 1.132.695 | 1155 | 840 | 73.943 |
| Гомельский облисполком | 8234 | 6962 | 1.198.501 | 1155 | 840 | 78.987 |
| Гродненский облисполком | 7836 | 6479 | 1.071.665 | 1155 | 840 | 71.910 |
| Минский облисполком | 8369 | 6986 | 1.199.398 | 1155 | 840 | 81.762 |
| Могилевский облисполком | 7189 | 5683 | 1.153.222 | 1155 | 840 | 77.916 |
| Минский горисполком | 6875 | 4530 | 1.161.570 | 1155 | 820 | 53.944 |

ЛИКБЕЗ

## Почему «потяжелели» жировки?

*Белорусы стали получать квитанции на оплату услуг ЖКХ за январь. И ахнули: расходы на коммуналку увеличились на 40%, 50% и даже 70% в зависимости от метража квартиры и прописанных в ней граждан. Почему так «потяжелели» жировки?*

**Во-первых,** потому, что в расчетных листках появились новые строчки.

Раньше в жировках была одна графа «Техническое обслуживание». С января в эту услугу входят работы по обслуживанию конструктивных элементов и инженерных систем дома, работы по подготовке дома к смене сезонов. Также в этой графе появились еще 4 пункта:

– санитарное содержание вспомогательных помещений, то есть уборка подъездов;

– техническое обслуживание лифта;

– плата за энергию, которую использует лифт;

– плата за освещение мест общего пользования, то есть лестниц, площадок и т.д.

Энергию, которая нужна для работы лифта, жильцы будут оплачивать в зависимости от того, сколько человек зарегистрировано в квартире. А за энергию, которая уходит на освещение подъездов, оплата будет зависеть от площади квартиры.

Плата за техобслуживание лифта тоже будет насчитываться исходя из площади квартиры.

**Во-вторых,** в 3,5 раза подорожала вода.

**В-третьих,** на **33% выросли тарифы на отопление и горячее водоснабжение.**

**Но «жировки» – это только часть квартплаты. Отдельно мы платим за свет, газ, пользование телефоном и интернетом. Не надо забывать, что с 1 января** на 20% подорожали газ и свет.

К СЛОВУ

## Через два года за коммуналку будем платить 100%

*«Возмещение тарифов на ЖКУ населением планируется осуществить в три этапа: конец 2016 года – выход на 50% возмещения затрат, конец 2017 года – на 75%, к концу 2018 года – на 100%»,* – заявил недавно министр экономики **Владимир Зиновский**.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

РЭГІЁН

## Інтарэсы полацкіх рабочых будуць абараняць прафесійныя юрысты

У сярэдзіне лютага шэрагаў полацкіх юрыстаў і праваабаронцаў быў падпісаны дагавор аб сумеснай дзейнасці. З-за няпростага эканамічнага становішча ў краіне на некаторых беларускіх прадпрыемствах, адбываюцца масавыя скарачэнні і затрымкі заробкаў. Іншы раз звальненні людзей адбываюцца з грубымі парушэннямі заканадаўства.

– *Мы будзем абараняць інтарэсы працоўных,* – сказаў «Народнай Волі» полацкі юрыст **Мікалай Шарах.** – *Паляпшэння эканамічнай сітуацыі не прадбачыцца, таму трэба рыхтавацца да вялікага аб'ёму працы. Ужо сёння нямала скаргаў у сувязі з парушэннем правоў на працаўладкаванне, звальненне.*

Юрыдычныя кансультацыі для жыхароў Полацкага рэгіёна бясплатныя. Звярнуцца па дапамогу да спецыялістаў можна па адрасе: Успенская, 3, пакой 13.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ДАСЛОЎНА

## Алег СУКОНКА, дырэктар РНПЦ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі: «Пры раку 1–2-й стадый выжывальнасць складае прыкладна 90 працэнтаў»

**– У чым складанасць лячэння злаякасных пухлін і ці можна спадзявацца, што будуць вынайдзены лекі ад раку?**

– Справа ў тым, што не існуе і не будзе ў будучыні аднаго лякарства, якое вылечыць рак. На жаль, для кожнага чалавека неабходна падбіраць сваё лячэнне. Прычым трэба ўлічваць, што пухліна муціруе, з кожным цыклам лячэння яе агрэсіўнасць павялічваецца. Больш за тое, апошнія даследаванні паказалі, што існуюць стваловыя клеткі – папярэднікі ракавых. Калі ў працэсе лячэння гіне асноўная маса пухліны, частка стваловых клетак упадае ў анабіёз, у іх адсутнічаюць прыкметы жыцця, і такім чынам яны пераносяць усе лекавыя ўздзеянні. Аднак пры пэўным збегу абставін і далучэнні некаторых знешніх альбо ўнутраных фактараў можа адбыцца актывацыя гэтых клетак і вяртанне хваробы.

Пры раку 1–2-й стадый выжывальнасць складае прыкладна 90 працэнтаў. Лячэнне на ранняй стадыі праводзіцца ў асноўным хірургічным метадам, пры гэтым часцей можна абысціся органазберагальнымі, у тым ліку лапараскапічнымі аперацыямі. А вось лячэнне 3–4-й стадый патрабуе велізарных, у дзясяткі разоў большых, сродкаў. Акрамя складаных адкрытых, часта камбінаваных аперацый прыходзіцца прымяняць хімія- і прамянёвую тэрапію. Прычым усе нашы намаганні часцяком не прыводзяць да радыкальнага вылечвання (у 4-й стадыі гэта амаль немагчыма), а служаць для таго, каб падоўжыць хвораму чалавеку жыццё.

**– Якія абследаванні вы парэкамендавалі б беларусам, што жадаюць сачыць за сваім здароўем?**

– Рэкамендую кожнаму пасля 50 хоць бы раз у пяць гадоў рабіць калонаскапію пад наркозам, каб пазбегнуць раку кішэчніка, які мы апошнім часам усё часцей выяўляем, але, на жаль, нярэдка на позніх стадыях. Некаторым нашым установам аховы здароўя неабходна яшчэ абзавесціся абсталяваннем і спецыялістамі для правядзення падобных працэдур, каб людзі мелі магчымасць звяртацца і не запускаць хваробу.

Жанчынам да 40 гадоў трэба штогод рабіць УГД малочных залоз, пасля 50 – мамаграфію, нават калі доктар не прызначае. Калі ў жанчыны маці, цётка, сястра хварэлі на рак грудзей, абследаванне малочных залоз трэба пачаць рабіць раней. У рамках скрынінгу ў анкалагічных установах мамаграфію можна прайсці бясплатна, але ёсць платная альтэрнатыва ў іншых клініках, прыватных медцэнтрах.

**– Ці дажывём мы да часоў, калі можна будзе паставіць дыягназ па кроплі крыві?**

– Ужо цяпер аналіз крыві дазваляе выявіць асаблівыя рэчывы (анкамаркеры), якія выпрацоўвае пухліна. На мой погляд, ужо ў бліжэйшай будучыні такія аналізы заменяць на ранніх этапах іншыя абследаванні – мамаграфію, калонаскапію і г.д. Гэта маё асабістае меркаванне. Зараз добра масава працуе аналіз на ПСА для выяўлення раку прастаты і даволі добра – СА-125, накіраваны на выяўленне раку яечнікаў.

Мяркую, хутка дастаткова будзе здаць аналіз крыві, спецыяльная машына прааналізуе па ім сітуацыю, якая склалася ў арганізме, і выдасць рэкамендацыі, які орган выклікае апасенне і, адпаведна, мае патрэбу ў больш дэталёвым абследаванні. Мы гэта ўжо робім, але цяпер эфектыўнасць анкамаркераў у практычным прымяненні яшчэ дастаткова нізкая. Мы працуем над павышэннем іх эфектыўнасці.

http://zvyazda.minsk.by

О ЧЕМ ПИШУТ…

## Юрий Чиж ушел из Калининграда?

*В калининградской прессе появилась публикация, в которой утверждается, что бизнесмен из Беларуси Юрий Чиж владел компанией «Стриктум», планирующей строительство калийного комбината в поселке Нивенское в шести километрах от областного центра. Научное сопровождение этого проекта, к слову, обеспечивает Институт общей и неорганической химии НАН Беларуси. А в прошлом году, по некоторой информации, белорусским КГБ в минском аэропорту был задержан технический директор «Стриктума», член-корреспондент Академии наук Беларуси, лауреат Государственной премии Беларуси за 2008 год Анатолий Смычник.*

Фирма «Стриктум» несколько лет назад получила лицензию на разработку калийных солей в поселке Нивенское. Учредителем фирмы являлся некий голландский фонд "Вирекс", о собственниках которого все это время ничего не было известно. Однако против появления обогатительной фабрики недалеко от поселка активно выступало местное население, называя строительство экологической катастрофой для региона. Российские эксперты утверждали, что создание подобного производства в границах населенного пункта с двумя тысячами жителей нарушает сразу несколько статей российского законодательства. Более того, у местных активистов появились огромные сомнения в том, что компания «Стриктум» действительно голландского происхождения.

– *Сомнения в голландском происхождении компании «Стриктум» возникли сразу же. Уж слишком не по-джентльменски повели себя руководители фирмы по отношению к местному населению,* – заявил активист Игорь Славский российскому изданию «Эксклав. RU – новости Калининграда». – *Общественные слушания были проведены с грубейшими нарушениями. Постоянно скрывалась информация о проекте. Впоследствии стали применяться такие грязные приемы, как распространение листовок с дезинформацией от имени инициативной группы, распространение дискредитирующих слухов о действии активистов, воровство и уничтожение протестных баннеров с заборов местных жителей. Все это подтверждало догадки о неевропейском происхождении инвестора.*

В июле прошлого года инициативная группа из Нивенского сельского поселения в письменном виде обратилась к руководству компании «Стриктум». В числе прочих значился вопрос о реальных владельцах компании.

*«В своем ответе генеральный директор сообщил, что «требование о предоставлении данных о бенефициаре Общества не может быть удовлетворено»,* – *говорит* **Игорь Славский.** – *Одна из основных причин этого – нежелание самого конечного владельца фирмы».*

Не получив ответа на свой вопрос, активист провел собственное расследование, используя исключительно открытые источники.

*«В качестве отправной точки,* – *говорит активист,* – *были взяты исходные данные, выписки из Единого государственного реестра юридических лиц. Далее – произведен поиск на причастность фирм-владельцев к другим юридическим и физическим лицам».*

В итоге, утверждают российские журналисты, Игорю Славскому удалось выйти на истинного владельца компании «Стриктум». Им якобы оказался один из богатейших людей Беларуси – олигарх Юрий Чиж. Если это действительно так, то можно объяснить, почему «голландскому» инвестору пришла идея нанять в исполнители белорусские НИИ. Ведь научной частью проекта занимается руководитель Института общей и неорганической химии НАН Беларуси академик Николай Крутько. А техническим директором компании «Стриктум» был назначен белорусский профессор Анатолий Смычник.

*«Если эти господа не смогли создать у себя на родине так называемое «безотходное производство» калийных удобрений, то почему мы должны верить в то, что они это смогут сделать у нас?!* – возмущается Игорь Славский. – *Во-первых, даже у себя дома белорусские специалисты не строят шахты внутри населенных пунктов, подвергая местное население опасности. Во-вторых, проблема отходов калийного производства у них, что называется, на поверхности. Если у нас компания «Стриктум» собирается сливать ежегодно миллионы тонн химических отходов в недра и их не будет визуально заметно, то это не означает, что их нет и последствий от них не будет. Более того, Беларусь ежегодно увеличивает площади хранения отходов. А это говорит о том, что и в Калининграде будут те же самые проблемы».*

На нашумевшую публикацию Игоря Славского о проведенном расследовании уже отреагировало руководство компании «Стриктум».

*«В прошлую субботу на встрече местных жителей с депутатами по вопросу недопущения строительства ГОК в Нивенском, руководитель «Стриктума» Павел Яковлев заявил, что Юрий Чиж действительно являлся собственником калийного бизнеса в Калининграде, но теперь уже «точно-преточно компанией владеет европейский инвестор»,* – *заявил Игорь Славский.*

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

ОФИЦИАЛЬНО

## И тортик не купишь…

Министерство труда сообщило, что январские зарплаты бюджетников, а также стипендии студентов, курсантов и ординаторов вырастут на 5,5%.

Правда, этот процент считается не от суммы зарплаты, а от суммы бюджета прожиточного минимума. Сегодня это 1,591 миллиона рублей. То есть бюджетники за январь получат всего на 79,5 тысячи рублей больше.

При этом зарплату госслужащих, денежное довольствие военнослужащих, суворовцев и курсантов проиндексируют на 12,9%, или на 205,2 тысячи рублей.

Министерство труда также отметило, что выплаты из бюджета, которые зависят от базовой величины, индексироваться не будут, так как они пересматривались единовременно в момент повышения самой базовой.

ПАРАЛЕЛІ

## Не самая малочная краіна ў свеце

У 2015 годзе вытворчасць малака ў Беларусі склала 6 мільёнаў 635 тысяч тон, што на 390 тысяч тон больш у параўнанні з 2014 годам. Аднак да топ-20 найбуйнейшых сусветных вытворцаў малака нам яшчэ далёка. Таксама, як і да паказчыкаў па дынаміцы росту, якую дэманструюць у тым ліку і нашы суседзі – Польшча і Латвія.

Больш за ўсіх у мінулым годзе надаілі малака ў ЗША (93,3 млн тон) і Індыі (57,5 млн тон). На гэтыя дзве краіны прыпадае прыкладна 30% сусветнай вытворчасці прадукту. У топ-20 увайшлі таксама Расія (30,6 млн тон), Украіна (11,3 млн тон) і Польшча (10,6 млн тон). Беларусь у гэтым спісе дваццаць другая. Ад 20-га радка яе аддзяляюць Судан (7,6 млн тон) і Японія (7,5 млн тон). Адрыў Беларусі ад бліжэйшага саперніка знізу – Іспаніі (5,9 млн тон) – таксама істотны.

Дарэчы, Польшча замыкае першую дзясятку краін з самымі высокімі тэмпамі прыросту малочнай вытворчасці ў перыяд 2011–2014 гадоў. За гэты прамежак часу валавыя надоі ў нашых суседзяў выраслі на 14%, або на 1,3 млн тон. Лідарам па дынаміцы з'яўляецца Турцыя, а трэцяе і чацвёртае месцы займаюць Латвія і Эстонія, дзе прырост склаў адпаведна 21,6% і 20,2%. У Беларусі ў гэты перыяд прырост па аб'ёмах быў толькі 3,1%.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

ЧУЛІ?

## Пераможцу «Еўрабачання» выберуць па новых правілах

Еўрапейскі вяшчальны саюз абвясціў пра найбуйнейшыя з 1975 года змены ў механізме выстаўлення балаў на конкурсе «Еўрабачанне».

Раней вынікі галасавання прафесійнага журы і гледачоў даваліся ў выглядзе камбінаванага выніку. З гэтага года ў фінале конкурсу члены журы і тэлегледачы будуць самастойна выстаўляць удзельнікам ад 1 да 12 балаў.

Пасля глядацкага галасавання па тэлефоне, або з дапамогай SMS ці адмысловага прыкладання, кожны прадстаўнік адной з 43 краін – удзельніц «Еўрабачання» назаве балы, выстаўленыя членамі журы. Пасля да гэтых вынікаў дададуцца балы, якія паставілі гледачы.

Міжнародны песенны конкурс «Еўрабачанне-2016» пройдзе з 10 па 14 мая ў сталіцы Швецыі Стакгольме. Беларусь прадставіць спявак Аляксандр Іваноў (Ivan) з песняй «Help you fly».

ТАКАЯ ЖИЗНЬ

# Кто будет работать за 27 долларов?

*В Берестовицком районе ищут кладовщика, готового трудиться за 580 тысяч рублей.*

Берестовицкий район расположен на самом западе Беларуси, в Гродненской области, и граничит с Польшей. Его население – всего 15 тысяч человек. Из них треть проживает в районном центре – городском поселке Большая Берестовица.

Управление по труду, занятости и социальной защите Берестовицкого райисполкома опубликовало список вакансий, актуальных на начало февраля. В списке 132 должности, вакантных мест – 160. Анализ этого документа позволяет увидеть большинство проблем обычного района, а если обобщить – то и всей Беларуси.

Прежде всего невысокая зарплата. Лишь 18 вакансий из 132 предусматривают зарплату 4 миллиона и выше. Семь должностей оплачиваются максимально – 6 миллионов. Столько, возможно, будут получать главный бухгалтер автопарка в поселке Пограничный, главный ветеринарный врач, главный инженер и главный зоотехник в филиале предприятия «Молочный мир» (одного из крупнейших предприятий молочной отрасли страны), главный ветеринарный врач в сельскохозяйственном кооперативе «Тетеревка» (в том же поселке Пограничный), главный инженер в строительной организации, а также специалист в «Белнефтестрахе».

Но все это руководящие должности, требующие большого опыта работы. А вот для рядовых людей «лакомых» вакансий практически нет. Чаще всего специалисты требуются в системе образования и здравоохранения. Единственное исключение – работа в местной милиции. Специалист отдела департамента охраны МВД, а также его коллега-водитель будут зарабатывать по 5 миллионов. Даже сотрудник местного отделения «Беларусбанка» может претендовать всего на 3 миллиона.

Еще одна проблема – неравномерность оплаты труда в разных сферах. Как уже упоминалось, главный бухгалтер автопарка получит 6 миллионов, а вот его коллега в Центре гигиены и эпидемиологии – всего 2,3 миллиона. Кстати, последняя цифра – минимальная при работе на ставку. Но вот они, чудеса социального равенства: столько же – 2,3 миллиона – будут получать дворники Сельскохозяйственного лицея и физкультурно-оздоровительного спортивного центра.

При этом практически пятая часть вакансий (25 из 132) предусматривает работу на полставки, что равноценно зарплате всего в 1,2 миллиона белорусских рублей (около 57 долларов). Сложно представить, что за такую сумму изъявят желание работать инженер-программист, социальный педагог и педагог-организатор, аккомпаниатор, повар, художник и слесарь-ремонтник. Почему-то такая же сумма предусматривается и для гардеробщика лицея.

И все же практически абсолютный минимум задал сам райисполком. В отдел образования, спорта и туризма требуется библиотекарь. Правда, всего на четверть ставки. Обещанная зарплата – 600 тысяч (около 28 долларов). За такую же сумму и на тех же условиях ищут музыкального руководителя в ясли-сад-школу и хормейстера в школу искусств.

Но и это еще не предел! Кладовщик, который захочет устроиться в Берестовицкий физкультурно-оздоровительный спортивный центр, будет получать 580 тысяч (27 долларов) за четверть ставки.

Конечно, речь не о полном рабочем дне, а о сокращенном или о выходе на работу по определенному графику. В любом случае предлагаются смешные деньги – даже для маленького райцентра, в котором трудоустроиться не так просто.

Добавим, что Берестовицкий район далеко не отстающий. Например, в 2013-м и 2014 годах он занимал третье место в стране по урожайности, в прошлом году «откатился» на четвертое место. Чего же тогда ожидать от других регионов?

**Денис МАРТИНОВИЧ.**

